**БЕЛАРУСЬ У КАНТЭКСЦЕ ЧАСУ**

СТАМБУЛЬСКІ САМІТ АБСЕ

Стар. 2.

**"ЛІСТАПАД-99"**

ФЕСТЫВАЛЬ ФЕСТЫВАЛЯЎ

Стар. 3.



Павел АТРУШКЕВІЧ— НАМЕСНІК СТАРШЫНІ АСАМБЛЕІ НАРОДАЎ КАЗАХСТАНА

Стар. 6—7.

**ПАДПІСКА-2000**

БЕЛАРУСКІЯ ГАЗЕТЫ ДЛЯ РАСІЯН

Стар. 6.



Стар. 4

**НОВЫЯ ІМЁНЫ**

ВЕРШЫ Валерыі КУСТАВАЙ

**"ТАК ХОЧАЦЦА Ў МІНУЛАЕ І Ў БУДУЧАЕ"**

Стар. 8.



АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

1 снежня 1999 года
Цана 40 000 рублёў

№ 48 (2658)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі

Выдаецца з 1955 г.

**НАПЯРЭДАДНІ**

## РЫХТУЕЦЦА ВЫБАРЧЫ КОДЭКС

Не пазней, чым восенню 2000 года, у Беларусі павінны прайсці выбары новага парламента, а яшчэ праз год — выбары Прэзідэнта. Такім чынам, ужо да наступнай вясны ў краіне належыць карэнным чынам перагледзець заканадаўства аб выбарах. Спробай стварэння новай прававой базы, паводле якой адбудуцца выбары, можна лічыць распрацоўку праекта Выбарчага кодэкса.

Ён аб'ядноўвае ўсе заканадаўчыя і нарматыўныя акты, якімі рэгламентаваліся працэдуры па выбарах Прэзідэнта, дэпутатаў вышэйшага заканадаўчага органа і мясцовых Саветаў, а таксама правядзенне рэферэндумаў. Частка ранейшых палажэнняў знікла ўвогуле, большасць засталася без змянення, з'явіліся новыя нормы. Днямі Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу прыняла праект Выбарчага кодэкса ў першым чытанні, адобрыўшы саму канцэпцыю кодэкса. Гэта можна лічыць першым крокам да рэальнага абнаўлення айчыннага заканадаўства ў галіне правядзення выбарчых кампаній.

Зразумела, самая складаная працэдура — прыняцце праекта кодэкса ў другім чытанні — яшчэ наперадзе. Але нельга сказаць, што нават падрыхтоўка першапачатковага варыянта праходзіла гладка. Для распрацоўкі праекта кодэкса былі прыцягнуты вядучыя спецыялісты-правазнаўцы, праект накіроўваўся на экспертызу ў многія навуковыя ўстановы. Аднак хаця дакумент, які некалькі дзён таму адобрылі дэпутаты ніжняй палаты, ствараўся на працягу некалькіх месяцаў, ён усё роўна пакуль далёкі ад ідэалу. Заўваг і прэтэнзій з боку дэпутатаў падчас прадстаўлення яго ў Нацыянальным сходзе гучала нямала. Яшчэ больш прэтэнзій да праекта выказваецца па-за межамі парламента.

Па словах Лідзіі Ярмошынай, старшыні Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў, на этапе падрыхтоўкі праекта кодэкса ад розных адрасатаў паступіла больш за 180 прапаноў і заўваг у 80 артыкулаў (усяго ў праекце кодэкса налічваецца 155 артыкулаў, якія аб'ядняны ў 10 раздзелаў і 29 глаў). Старшыня Камісіі па дзяржаўнаму будаўніцтву, мясцоваму самакіраванню і рэгламенту Палаты прадстаўнікоў Анатоль Крацуцкі прызнаў, што толькі трэцяя частка была ўлічана ў выніку абагульнення прапаноў.

Асабліва абмеркавання кодэкса з'яўляецца тое, што ён павінен стаць прадметам аналізу не толькі ўладных структур, але міжнародных арганізацый і апазіцыі. Менавіта праект Выбарчага кодэкса аб'яўлены прадметам дыялога паміж уладамі і палітычнай апазіцыяй, які на працягу некалькіх месяцаў рыхтуецца пры садзейнічанні тых жа міжнародных экспертаў.

Дарэчы, міжнародныя арганізацыі ўжо выказаліся наконт палажэнняў праекта. У прыватнасці, найбольш дэталёва прааналізавалі дакумент прадстаўнікі Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ, якая пастаянна дзейнічае ў Мінску. Частку іх прапаноў распрацоўшчыкі праекта кодэкса ўнеслі ў дакумент.

І ўсё ж можна прагназаваць, што напярэдадні разгляду праекта кодэкса ў другім чытанні страсці вакол яго разгарацца з новай сілай. Не выключана, што ў выніку беларускія ўлады ўсё ж пойдуць на тое, каб згадзіцца з прапановамі міжнародных экспертаў. Бо ад іх стаўлення да айчыннага заканадаўства, ад дэкларуемых умоў, у якіх павінны праходзіць будучыя выбары, залежыць, ці будуць вынікі прызнаны іншымі дзяржавамі і міжнароднымі арганізацыямі. У адваротным выпадку легітымнасць і дэмакратычнасць заканадаўчай улады краіны зноў можа трапіць пад сумненне. Гэта будзе азначаць, што прахапода ў сённяшніх адносінах беларускіх уладаў з замежжам працягнецца. А ў гэтым не зацікаўлены ніводзін з бакоў.

**Юрый ДОМНІЧ.**

**АФІЦЫЙНА**



**Прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей ЛІНГ сустрэўся з прадстаўнікамі беларускай дыяспары Латвіі, якія наведалі Мінск. У ходзе візіту ў Доме дружбы адбылася прэзентацыя газеты беларусаў Латвіі "Прамень". Нагодай паслужыў пяцігадовы юбілей гэтага выдання.**

**ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ**

### КАНАДА

Паважаныя прыяцелі-беларусы!

Шчыра дзякую за "Голас Радзімы". Заўсёды рад чытаць пра беларускія справы. Калісьці бацька атрымліваў газету (ён памёр некалькі гадоў назад), а цяпер я.

Прашу заўважыць змены ў адрасе — буду хутчэй атрымліваць газету.

Зычу здароўя і ўсялякай спрыяльнасці ў працы.

З пашанай

**Юрка РАПЕЦКІ.**

### УКРАІНА

Паважаная рэдакцыя "Голасу Радзімы", дарагія землякі, прывітанне!

Культурнае таварыства "Беларусь" Украіны з пачуццём глыбокай павагі дзякуе вам за магчымасць штотыднёва чытаць газету "Голас Радзімы". Яна інфармуе нас, беларусаў на Украіне, аб жыцці Радзімы. Мы рады вашым поспехам, таму што беларускі народ змагаецца за стабільнасць у свеце. Мы з табою, свабодная Беларусь!

Упэўнены, што нікому не ўдасца разарваць вузы братэрскага сяброўства славянскіх народаў, змацаванага крывёю многіх пакаленняў у барацьбе з прыгнятальнікамі.

**Міхаіл ПІЛІПЕНКА, старшыня таварыства "Беларусь", Герой Савецкага Саюза.**

**ПРЭМ'ЕРА**

**Галоўны рэжысёр Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа ў Віцебску Віталь Баркоўскі ажыццявіў прэм'еру спектакля "Шагал... Шагал..." па п'есе Уладзіміра Драздова "Васількі Шагала". Сцэнаграфія — Уладзіміра Матросава, касцюмы — Святланы Макаранкі, музыка — Аляксандра Крыштафовіча.**

**НА ЗДЫМКАХ:** сцэны са спектакля.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**





**СПОРТ**

**ФУТБОЛ.** Ужо 17-ты раз праводзіцца апытанне, каб вызначыць лепшага беларускага футбаліста года. Ім прызнаны 27-гадовы абаронца нацыянальнай зборнай Беларусі Сяргей Гурэнка.

На поспехі Сяргея звярнуў увагу настаўнік рымскага клуба Фабла Капела. У цяперашні час беларускі легіянер жыве ў Рыме, трэніруецца і эпізадычна выступае ў саставе клуба "Рома".

**ФЕХТАВАННЕ.** На чэмпіянаце свету ў южнакарэйскім Сеуле зборная мужчын-шпажыстаў у саставе Віталя Захарава, Андрэя Мурашкі, Уладзіміра Пчанікіна, Уладзіміра Расольскі ў нялёгкай барацьбе заваявала ліцэнзію на Алімпійскія гульні, заняўшы сёмае месца.

**ІНВАСПОРТ.** Лёгкаатлетка з Пінска Ірына Леанцюк рыхтуецца да ўдзелу ў Параалімпійскіх гульнях у Аўстраліі. На турніры ў Германіі яна ўстанавіла новы сусветны рэкорд па скачках у даўжыню з вынікам 5 метраў 75 сантыметраў. У Аўстраліі Ірына выступіць яшчэ ў чатырох дысцыплінах: бегу на 100, 200 і 400 метраў і скачках у вышыню. Можна толькі здзіўляцца мужнасці і сіле характару спартсменаў-інвалідаў. Яны здольныя даць фору любому чалавеку, які не мае фізічных адхіленняў.

**ТЭНІС.** Незвычайны падарунак да свайго 20-годдзя атрымала ўзыходзячая тэнісная зорка Беларусі Вольга Барабаншчыкава. Ёй прысвяціў свой канцэрт папулярны маладзёжны гурт "Hi-Fi", які прыбыў у Мінск. А заказаў гэта арыгінальнае шоу для Вольгі яе калега па корце кіяўлянін Андрэй Мядзведзеў.

**Падрыхтавала Каця МАЗАКОВА.**

БЕЛАРУСЬ У КАНТЭКСЦЕ ЧАСУ




# СУПРАЦОЎНІЦТВА ДЗЕЛЯ БЯСПЕКІ

Тое, што на рубяжы тысячагоддзяў саміт АБСЕ прымае Стамбул, горад, размешчаны на стыку кантынентаў і цывілізацый, — сімвалічна. Упэўнены, што пасля гэтага паспяховага саміта Стамбул увойдзе ў гісторыю разам з Хельсінкі і Венай, дзе прымаліся гістарычна важныя для станаўлення АБСЕ рашэнні. Аб гэтым заявіў Прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка, выступаючы на саміце АБСЕ. Галоўным пазітыўным вынікам форуму з'яўляецца тое, што кіраўнікам дэлегацый удалося ўзгадніць найважнейшыя дакументы, якія павінны забяспечыць станаўленне АБСЕ ў якасці эфектыўнага інструмента вырашэння агульнаеўрапейскіх праблем.

У сваім выступленні кіраўнік беларускай дзяржавы адзначыў, што наша краіна мае намер выконваць прынятыя на саміце рашэнні, таму што разглядае АБСЕ ў якасці ключавога элемента ў сістэме бяспекі новай Еўропы. Ён нагадаў, што апошнія паўтара года ў Беларусі працуе Кансультатыўна-наглядальная група АБСЕ і падзякаваў структурам арганізацыі, уключаючы Парламенцкую асамблею, за дапамогу, якая аказваецца нашай краіне ва ўмацаванні дэмакратычных інстытутаў. "У наступным годзе ў Беларусі пройдуць парламенцкія выбары. Мы запрашаем наглядальнікаў з усіх краін — удзельніц саміта для таго, каб вы пераканаліся, што выбары гэтыя свабодныя, справядлівыя і адпавядаюць стандартам АБСЕ", — заявіў Прэзідэнт.

У выступленні звярталася ўвага на тое, што саміт АБСЕ апраўдана ўдзяліў шмат увагі пытанням умацавання даверу адзін да аднаго, крокам, якія прызначаны ліквідаваць ваенную небяспеку. Прыхільнасць беларусаў да міру дыктуецца гісторыяй краіны, якая на працягу стагоддзяў была тэатрам ваенных дзеянняў у час найбуйнейшых узброеных канфліктаў на кантыненце. Прэзідэнт нагадаў, што Беларусь толькі нядаўна аднавіла колькасць насельніцтва, якая існавала да другой сусветнай вайны. А. Лукашэнка яшчэ раз падкрэсліў, што з нашай тэрыторыі ніколі не зыходзіла і не будзе зыходзіць пагроза ніводнай дзяржаве. Мы добраахвотна адмовіліся ад статусу ядзернай дзяржавы і вывезлі са сваёй тэрыторыі ўсю ядзерную зброю. На працягу некалькіх гадоў Беларусь выступае з прапановай аб стварэнні ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе прасторы, свабоднай ад ядзернай зброі, аб неразмяшчэнні ядзерных узбраенняў у тых краінах, дзе іх няма цяпер. На жаль, гэта ідэя не знаходзіць дастатковай падтрымкі ў краін — партнёраў па АБСЕ.

Заканамерным лічыць Прэзідэнт і тое, што ў рамках АБСЕ ўдзяляецца шмат увагі пытанням абароны правоў нацыянальных меншасцяў. Бо карані многіх крывавых канфліктаў ляжаць у агрэсіўным нацыяналізме, пагарджанні правамі асобных этнічных груп. У сувязі з гэтым ён адзначыў, што Беларусь — поліэтнічная і поліканфесіянальная краіна, дзе няма міжрэлігійных і міжнацыянальных канфліктаў. У нас усе грамадзяне незалежна ад веры і нацыянальнасці карыстаюцца роўнымі правамі.

Кіраўнік дзяржавы таксама заклікаў да больш уважлівых, аб'ектыўных адносінаў адзін да аднаго. Бо цярпімасць, умацаванне даверу, прыярытэт дыпламатыі і права — адзіна правільны шлях да фарміравання сапраўднага еўрапейскага адзінства. Гэта ў поўнай меры адпавядае агульнаеўрапейскай ідэі — узгодненаму руху ад "Еўропы нацый" да "Нацыі Еўропа".

Беларусь была, ёсць і будзе ачагом стабільнасці і спакою ў Еўропе, надзейным партнёрам усіх дзяржаў — членаў АБСЕ і свету ва ўмацаванні міжнароднай і рэгіянальнай стабільнасці, прагучала на форуме.

**БелТА.**

АКТУАЛЬНА

# ДЗІЦЯ — ЧАЛАВЕК З УСІМІ ПРАВАМІ

Тэма прэс-канферэнцыі намесніка міністра адукацыі Беларусі Алега Слукі — "Рэалізацыя канвенцыі ААН аб правах дзіцяці ў Рэспубліцы Беларусь". Як паведаміў Алег Георгіевіч, перад Міністэрствам адукацыі стаіць мэта "выхаваць у дзяцей і моладзі псіхалогію асэнсавання правоў чалавека, зрабіць так, каб яны паверылі ў неабходнасць дзяржавы і грамадства забяспечыць гэтыя правы".

Сёння ў Беларусі дзейнічае 27 нарматыўных актаў, якія рэгулююць пытанні аховы дзяцінства і правоў чалавека. Кантралюе іх выкананне Нацыянальная камісія па правах дзіцяці.

Паколькі асноўнаму ў гэтай галіне закону — Канвенцыі аб правах чалавека — сёлета споўнілася 10 гадоў, Алег Слука падвёў вынікі за названы перыяд. Ужо вырашана шмат пытанняў, звязаных з уладкаваннем сацыяльных сірот — 7,8 тысячы дзяцей зараз выхоўваюцца ў прыёмных сем'ях, 11,1 тысячы — у апякунскіх.

Вырашаюцца праблемы, звязаныя з абаронай правоў дзяцей-інвалідаў: акрамя таго, што арганізавана сетка санаторыяў, спецыяльных дамоў-інтэрнатаў, ствараюцца ўмовы для атрымання дзецьмі добрай адукацыі. За апошнія два-тры гады для іх распрацавана амаль уся вучэбная літаратура, якой дагэтуль не было ўвогуле. Ужо выдадзена 79 падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў.

Пільная ўвага звяртаецца на абарону дзяцей, якія апынуліся ў экстрэмальных сітуацыях — сірот, бежанцаў. Міністэрствам адукацыі распрацаваны Палажэнні аб сацыяльных прытулках і сацыяльна-рэабілітацыйных цэнтрах.

За апошнія гады ўведзены інстытут псіхолагаў-педагогаў. Зараз 3,2 тысячы такіх спецыялістаў працуюць у сістэме дзяржаўнай адукацыі — амаль у кожнай школе.

Аднак праблем шмат, і для іх вырашэння, на думку Алега Слукі, "трэба яшчэ больш аб'яднаць намаганні дзяржавы і грамадства ў абароне правоў дзяцей".

**Нэлі ПРЫВАЛАВА.**

ЛІСТАПАДАЎСКІ АГЛЯД

# ПАМІЖ МІНУЛЫМ І БУДУЧЫНЯЙ...

**● Галіна УЛІЦЁНАК.**

Вось і надышоў час традыцыйна, каторы ўжо раз, сказаць: не паспелі азірнуцца — зноў зіма... Лістапад — за парогам, лічы, і год недзе там , у мінулым. Які ж настрой пакінуў нам апошні подых восені?

Звычайна лістапад большасць людзей не адносіць да сваіх любімых месяцаў (хаця мне, напрыклад, ён падабаецца): шэрае неба, сум у душы. Сёлета да ўсіх гэтых непрыемнасцей дабавіўся яшчэ і холад у кватэрах беларусаў: што рабіць, у краіне працягваецца эканамічная блытаніна. Неабходна выпраўляць становішча, урад засядае і думае, думае, думае...

На самым пачатку лістапада наш народ адзначае Дзяды — дзень памяці і ўшанавання памерлых продкаў. Мы згадваем іх жыццё, часам параўноўваем з уласным ... Спакон веку так павялося, што беларускаму люду і хлеб, і жыццё ўвогуле даюцца нялёгка. Можа, таму і знешне мы не вельмі радасныя.

Праўда, было ў лістападзе і на беларускай вуліцы свята: на працягу цэлага тыдня праходзіў фестываль "Залаты шлягер". Спецыфіка яго ў тым, што сюды запрашаюцца эстрадныя, музычныя зоркі мінулых гадоў, звычайна савецкага перыяду. Поспех у гледача яны мелі каласальны. Людзі не толькі шчодра апладзіравалі, але ўсміхаліся, падпявалі артыстам, іх вочы свяціліся шчырым пачуццём і цеплынёй. І не дзіўна : настальгія па савецкім часе і пасюль не пакідае значную частку беларускага грамадства. Людзі згубілі мінулае, а будучыню не знайшлі. Галоўнае ж, чаго многім не хапае сёння, — гэта нават не грошай, хаця іх таксама катастрафічна паменшала ў нашых кішэнях. Нам не хапае адчування стабільнасці, упэўненасці ў заўтрашнім дні.

Аднак 82-я гадавіна Кастрычніцкай рэвалюцыі, якая адзначаецца 7 лістапада, нягледзячы на тое, што, як і раней, знаходзіцца ў шэрагу дзяржаўных святаў, сёлета не магла прэтэндаваць на агульнанароднае прызнанне і маштабнасць. І хаця ў вядомай савецкай песні спявалася: "Ёсць у рэвалюцыі пачатак, няма ў рэвалюцыі канца", дзень 7 лістапада 1999 года яшчэ раз прадэманстраваў вядомую выснову: усё калінебудзь заканчваецца. І рэвалюцыі таксама.

Краіна ўваходзіць у новае тысячагоддзе стомленай. Пэўную палёгку маглі б прынесці як уласныя, так і замежныя інвестыцыі ў айчынную эканоміку. З гэтай мэтай у сярэдзіне лістапада прайшла 2-я Міжнародная канферэнцыя па інвестыцыях Рэспублікі Беларусь. У ёй узялі ўдзел прэм'ер-міністр урада Беларусі Сяргей Лінг, віцэ-прэм'ер, міністр замежных спраў прафесар Урал Латыпаў, міністр эканомікі Уладзімір Шымаў, старшыня Нацыянальнага банка Пётр Пракаповіч. Яны патлумачылі цяперашні стан у эканоміцы краіны, адказалі на пытанні замежных удзельнікаў сустрэчы, гарантавалі захаванне правоў і маёмасці замежных інвестараў, якія ўкладуць свае грошы ў вытворчасць Беларусі.

Паспрыяла агульнаму пацяпленню знешнепалітычнага клімату сустрэча на вышэйшым узроўні ў Стамбуле, куды з'ехаліся кіраўнікі 54-х краін свету. Беларуская дэлегацыя таксама падпісала выніковыя дакументы саміта АБСЕ, выказаўшы тым самым імкненне не выбівацца з агульнаеўрапейскага рэчышча.

Мінуў сумнаваты лістапад. Але... але наперадзе снежань... Каляды, Новы Год, і не варта праскокваць праз яго мімаходам, жыццё і так вельмі хуткаплыннае: не паспееш азірнуцца — зноў зіма...

САЦЫЯЛЬНЫ РАКУРС

# МІНСК СТАНЕ ЗРУЧНЫМ ДЛЯ ЎСІХ

**Менавіта так сфармуляваў мэту развіцця Мінска галоўны архітэктар горада, старшыня камітэта архітэктуры, горадабудаўніцтва і землеўпарадкавання Мінгарвыканкама Аляксандр ЧАДОВІЧ.**

Канцэпцыя развіцця гарадскога будаўніцтва існуе досыць даўно, а вось адносна новай з'яўляецца актыўная праца па прыцягненню інвестыцый. Сёлета сталічны гарвыканкам ужо адобрыў план функцыянальнага заніравання горада да 2030 года, які з'яўляецца асноўнай часткай генеральнага плана развіцця сталіцы і арыентаваны, у першую чаргу, на радавых грамадзян. Чакаецца, што дакумент будзе прыняты да канца года і менавіта ён стане асноўным рэгулятарам эканамічных і юрыдычных адносін паміж уласнікамі. Галоўнае адрозненне новага дакумента ад папярэдніх — ініцыіраванне актыўнасці насельніцтва.



Яшчэ адным важным момантам новага дакумента з'яўляецца вырашэнне праблемы вытворчых тэрыторый. Некалькі гадоў назад Саветам Міністраў ужо прымалася пастанова аб вынасе 64 мінскіх прадпрыемстваў за рысу горада. Таму ў бліжэйшай будучыні будзе праводзіцца трансфармацыя некаторых прамысловых зон у жылыя ці грамадскія.



Да 2030 года плошча Мінска, што складае сёння 29 тысяч гектараў, павялічыцца да 42 тысяч гектараў, прычым значную частку горада (папярэдне каля 40—50 працэнтаў) складзе паркавая прастора. Плануецца таксама будаўніцтва новых мікрараёнаў і стварэнне так званых пешаходных зон, без якіх не абыходзіцца практычна ніводная буйная еўрапейская сталіца.

**Падрыхтавала Ірына ГАЙ.**



КІНО-99




Напрыканцы лістапада ў Мінску адбыўся VI Міжнародны кінафестываль краін СНД і Балтыі "Лістапад-99". Яго гасцямі сталі вядомыя акцёры і кінематаграфісты — Станіслаў Гаварухін, Леанід Ярмольнік, Аляксандр Абдулаў, Годзердзі Чахелі, Лідзія Федасеева-Шукшына, Яўгеній Мацвееў, Вольга Ягорава і многія іншыя.

За шэсць год свайго існавання фестываль зрабіўся для многіх гледачоў сапраўдным святам, дзе галоўнай дзеючай асобай з'яўляецца кіно. На "Лістападзе-99" прадстаўлены 17 кінастужак з 9 краін, прычым сярод іх няма "выпадковых" фільмаў. З'яўляючыся своеасаблівым "фестывалем фестываляў", "Лістапад" прапанаваў гледачам карціны, якія ўжо атрымалі ўзнагароды і станоўчыя водгукі кінакрытыкі. Назвы выпучаных фільмаў і імёны іх стваральнікаў гавораць самі за сябе: "Блакпост" А. Рагожкіна, "Сібірскі цырульнік" М. Міхалкова (пазаконкурсны паказ), "Барак" В. Агароднікава, "Варашылаўскі стралок" С. Гаварухіна, "Фара" А. Карпыкава, "Белы танец" Р. Кубаева, "Малох" А. Сакурава.

Беларускае кіно, якому сёлета споўнілася 75 год, было




прадстаўлена толькі дзвюма сумеснымі беларуска-расійскімі карцінамі — "Любіць па-рускy-3" Я. Мацвеева і "Тры жанчыны і мужчына" В. Дудзіна.

Фестывальныя фільмы ацэньвалі тры журы: гледачоў, кінематаграфістаў і кінапрэсы. Галоўным прызам па-ранейшаму з'яўляецца прыз сімпатый гледачоў. Акрамя таго, уручаны ўзнагароды за лепшую рэжысуру, лепшую жаночую ролю і лепшую мужчынскую ролю. Але падрабязнасці аб пераможцах у наступным нумары.

Спонсары фестывалю — Мінскі фарфоравы завод, медыцынскі цэнтр "Экамедсэрвіс", Альфа-радыё, Беларускі саюз моладзі, кампаніі "PRINT TEAM", "Folio", "Vesso-Bel", "Ford", "Belavia". Галоўны спонсар — "Schwarzkopf & Henkel".

**Нэлі ПРЫВАЛАВА.**
**Фота Віктара СТАВЕРА.**

ALMA MATER

# «FESTIVO» АДКРЫВАЕ ІНАГУРАЦЫЮ

Пасля некаторай адаптацыі ў родных сценах alma mater першакурснікаў Беларускага універсітэта культуры традыцыйна ўрачыста ўшаноўвалі ў тэатральнай зале цэнтральнага Дома афіцэраў.

Радасная атмасфера для віноўнікаў урачыстасці і шматлікіх гасцей, у тым ліку з Польшчы і Украіны, была створана ўжо ў прасторным фае. Тут можна было пазнаёміцца з экспазіцыяй студэнцкіх творчых прац кафедры народных рамёстваў пад кіраўніцтвам прафесара Рыгора Шауры, пачуць беларускую музыку XVIII стагоддзя ў выкананні народна-інструментальнай капэлы "Спадчына" пад кіраўніцтвам дацэнта Альбіны Скарабагатчанкі, атрымаць зарад станоўчых эмоцый пад гукі джазавай праграмы "Брасшоу ансамбля". А затым — першая частка інагурацыі — тэатралізаваная дзея.

...Набат званоў прыўнёс урачысты пачатак у тэатралізаваную кампазіцыю. Зала замерла, прымаючы такі незвычайны пралог, і вось ужо перакліканні труб, дзевяцігалосае сплячэнне звонкіх фанфар дыпламанта міжнароднага і рэспубліканскага фестываляў ансамбля трубачоў "Festivo" пад кіраўніцтвам Аляксандра Карацеева дазволіў паглыбіцца слухачам у цудоўны свет мастацтва. Уся кампазіцыя была пранікнута скразной ідэяй — духоўнасць чалавека, яго глыбокая вера ў справядлівасць і розум, ідэал, цяга да ведаў павінны стаць тымі арыенцірамі, з якімі мы ўвойдзем у наступнае стагоддзе. Кульмінацыя дзеі — урачыстая клятва першакурснікаў і выкананне студэнцкага гімна "Gaudeamus igitur" акадэмічным хорам "Мара" пад кіраўніцтвам прафесара Яўгена Рэўтовіча, якому падпявалі акадэмікі, прафесары, дацэнты і студэнты універсітэта, госці інагурацыі.

Першакурснікі і не чакалі, што іх старэйшыя таварышы, якія выступалі ў складзе розных творчых калектываў, удастоены высокіх званняў лаўрэатаў і дыпламантаў міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў і фестываляў. Узровень майстэрства студэнцкіх калектываў вельмі ўразіў. Доўгімі апладысментамі сустракалі гледачы вакальна-харэаграфічную кампазіцыю ў апрацоўцы М. Сіраты фальклорнага вакальна-харэаграфічнага ансамбля "Валачобнікі". Пад кіраўніцтвам заслужанага работніка культуры Станіслава Дробыша гэты калектыў заваяваў сэрцы слухачоў і членаў журы розных міжнародных фестываляў у Францыі, ЗША, Іспаніі, Польшчы, Германіі, Балгарыі. Прыкладам сапраўднага адраджэння нацыянальнай культуры стала выступленне створанага заслужаным дзеячам культуры рэспублікі Уладзімірам Громам ужо, бадай, экзатычнага нават для беларусаў ансамбля "Дудары". Яркія касцюмы, старажытныя інструменты, гучанне "Ваеннага маршa" Тадэвуша Касцюшкі, тэмпераментная "Кругавой полькі" нікога не пакінулі абыякавымі. Сёлета гэты калектыў запомніўся і гледачам міжнароднага фестывалю "Славянскі базар" у Віцебску. Па заслугах слухачы ацанілі і выкананне беларускай народнай песні "Ох, і там, на балоце" ў арыгінальным выкананні лаўрэата міжнародных фальклорных фестываляў у Бельгіі, Галандыі, Украіне ансамбля "Грамніцы" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Зіневіча, які сам зрабіў музыкальную апрацоўку твора. Святочны настрой падняла і "Беларуская полька" ў выкананні ансамбля "Беларускія ўзоры" пад кіраўніцтвам прафесара Генадзя Мішурава. Высокую культуру ўвасаблення прадэманстравалі харавыя калектывы універсітэта: лаўрэат I Праваслаўнага фестывалю камерны хор "Дабравест" пад кіраўніцтвам заслужанага работніка культуры рэспублікі, прафесара Альбіны Пякуцькі, які выканаў "Zotel marsh" С. Херберта-Паседу, лаўрэат фестывалю духоўнай музыкі і міжнароднага фестывалю "Арт-сесія" мужчынскі ансамбль "Vivat". Парадаваў сваімі канцэртнымі нумарамі і лаўрэат міжнароднага конкурсу канцэртны аркестр духавых інструментаў "Светач" і яго саліст на беларускай дудцы лаўрэат III Міжнароднага фестывалю народнай музыкі ў Паставах Канстанцін Трамбіцкі... Такое святкаванне ўваходу першакурснікаў ва універсітэцкую сям'ю запомніцца хлопцам і дзяўчатам на ўсё жыццё.

**Тамара ПІГУЛЕЎСКАЯ.**

ЗДАРЭННІ

## СПАЧАТКУ ФАЛЬШЫЎКІ, ПОТЫМ...ЗБРОЯ

У Гродне затрыманы мясцовы жыхар, які прывёз з Польшчы 29 фальшывых стодоларавых купюр.

Аднак на гэтым гісторыя не скончылася. Пры вобыску на кватэры маці і брата фальшываманетчыка міліцыя знайшла 56 баявых патронаў, 50 грамаў тратылу, каля 10 сантыметраў вогнеправоднага шнура і выбуховых прыстасаванні. Дзеля чаго захоўваліся гэтыя небяспечныя "цацкі", следства пакуль не высветліла.

## КАЛЯРОВЫЯ МЕТАЛЫ Ў ГЛЫБОКІМ

11 тон каляровага металу, які захоўваў без адпаведных дакументаў жыхар Глыбокага, знайшлі супрацоўнікі мясцовага РАУС сумесна з УКДБ. Глыбачаніну не ўдалося нагрэць рукі на даходным бізнесе: метал на агульную суму каля 1,6 мільярда рублёў канфіскаваны ў даход дзяржавы.

## ПАД ПАГРОЗАЙ АБРЭЗА

Касцюковіцкая міліцыя шукае зараз траіх злачынцаў, якія напрыканцы працоўнага дня ўварваліся ў магазін. Рабаўнікі, якія былі ў масках, пад пагрозай абрэза паляўнічай стрэльбы і нажа прымусілі загадчыцу гандлёвай кропкі аддаць ім выручку — 96 мільёнаў рублёў. А потым, зaхапіўшы з сабой тры бутэлькі гарэлкі, пакінулі месца здарэння. Святкаваць...

**Падрыхтавала Яна ГАЛІНА.**

НА МЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ

# ЦЭНТР ГІСТАРЫЧНАЙ ДУМКІ

Рэвалюцыйны і нацыянальна-вызваленчы рух у Заходняй Беларусі даследаваў У. Палуян; работы І. Краўчанкі, А. Залескага, В. Раманоўскага раскрывалі масавы гераізм і самаахвярнасць савецкіх людзей, у першую чаргу, жыхароў Беларусі, у барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Калектыў інстытута быў здольны вырашаць складаныя задачы па распрацоўцы гісторыі Беларусі, узбагачэнню гістарыяграфіі новымі працамі.

Пастаўленыя КПСС у пачатку 60-х гадоў задачы перад гуманітарнымі навукамі ў сувязі з перспектывай камуністычнага будаўніцтва самым непасрэдным чынам паўплывалі на характар і змест навукова-даследчыцкай дзейнасці інстытута. У меншай ступені гэта адчулі тыя яго навукоўцы, якія займаліся гісторыяй Беларусі дакастрычніцкага перыяду. З мэтай больш грунтоўнага даследавання сучаснасці ў 1962 годзе быў спецыяльна створаны сектар гісторыі камуністычнага будаўніцтва ў БССР, які ўзначаліў кандыдат гістарычных навук І. Марчанка. Кіравалі інстытутам у 60-я — першай палове 70-х гадоў Н. Каменская (1965—1969), І. Ігнаценка (1969—1975). Інстытут меў сталую тэндэнцыю да колькаснага павелічэння свайго складу, што забяспечвалася, галоўным чынам, праз падрыхтоўку кадраў ва ўласнай аспірантуры.

У 60-х — першай палове 70-х гадоў супрацоўнікамі інстытута вяліся даследаванні па шырокаму колу тэм. Але па розных прычынах шэраг важных аспектаў з айчыннай гісторыі не стаў прадметам навуковага аналізу. Незаслужана мала ўвагі надавалася распрацоўцы актуальнай і для Беларусі праблемы нацыянальнага развіцця. Дайшло нават да таго, што са старонак гістарычнай літаратуры ледзь не цалкам знік тэрмін "беларусізацыя", каб не нагадаць чытачам пра час, калі ў рэспубліцы на дзяржаўна-партыйным узроўні з сярэдзіны 20-х гадоў здзяйсняўся працэс нацыянальна-культурнага адраджэння беларускага народа.

Выданне ў 1958 годзе на беларускай і ў 1961 годзе на рускай мовах двухтомнай гісторыі Беларусі, выхад у свет значнай колькасці манаграфічных прац навукоўцаў інстытута стварылі спрыяльныя ўмовы для таго, каб распачаць напісанне шматтомнай гісторыі Бацькаўшчыны. Трэба аддаць належнае старанням вучоных інстытута на чале з тагачасным яго дырэктарам, старшынёй рэдкалегіі калегіі І. Ігнаценкам. З заданнем па напісанні "Гісторыі СССР" яны справіліся ў досыць сціслы тэрмін: першы том выйшаў у 1972 годзе, пяты — у 1975-м. Напісаны яны ў поўнай адпаведнасці з патрабаваннямі ідэалагічных службаў КПСС і КПБ да такога роду гістарычнай літаратуры і атрымалі ў рэспубліканскім і саюзным друку станоўчую адзнаку. Узначальвалі рэдакцыйныя калегіі адпаведных тамоў такія вядомыя вучоныя, як К. Шабуня (галоўны рэдактар 1—2 тамоў), І. Марчанка (галоўны рэдактар 3-га тома), І. Краўчанка (галоўны рэдактар 4-га тома), А. Філімонаў (галоўны рэдактар 5-га тома).

Варта адзначыць, што пяцітомная "Гісторыя БССР", як і ранейшая кніга па гісторыі Мінска, выдадзена на беларускай мове. У той жа час пісаць на ёй свае творы маглі толькі адзінкі з навукоўцаў, бо абсалютная большасць іх не валодала роднай мовай тытульнай нацыі рэспублікі. Таму ўсе тэксты пяцітомнай гісторыі Беларусі пісаліся па-руску, а затым перакладаліся на беларускую спецыялістамі-філолагамі. Ініцыятыва выдання "Гісторыі Мінска" і "Гісторыі Беларускай ССР" у пяці тамах на беларускай мове належала ЦК КПБ, бо кіраўніцтва інстытута ніколі не адважылася б на такі крок. У тых жа даволі рэдкіх выпадках, калі навуковец сам браў на сябе ініцыятыву выдаваць свае творы па-беларуску, гэта заўсёды выклікала падазронасць з боку кіраўнікоў інстытута і часта натыкалася амаль на непераадольныя перашкоды.

**Уладзімір НАВІЦКІ, доктар гістарычных навук!**



*І. ІГНАЦЕНКА.*

Працяг.
Пачатак у № № 43, 44, 46.



*Г. ШТЫХАЎ і В. МЯДЗВЕДЗЕВА.*



*Супрацоўнікі аддзела гісторыі нацыянальна-культурнага развіцця Беларусі.*



ЫЫ
СЦЬ

хоплівае сучасную
ыны і паўднёвую
асці, саматужныя
лі меншае экана-
не. Дзякуючы вы-
ыту, які насельніц-
аёнах атрымлівала
спадаркі, яно мела
эбу ў падсобных
таго ж на Палессі
ясцовасцей на той
аваў натуральны
кі. Усе патрэбныя
паляшук вырабляў
най распаўсюджа-
анасці хатніх ра-
ліва ткацтва, дрэ-
ут амаль не існава-
, арыентаваных на
лаў.
е ўжо 24 257 чала-
лі ад промыслаў
ільёны 360 тысяч
льш саматужнікаў
м павеце — 6 356
менскім іх налічва-
, у Пінскім і Рэчыц-
авагрудскім і Мін-
ысяч чалавек. Са-
аробкі мелі сама-
— 320—321 ру-
у Слуцкім павеце
ай колькасці выт-
ужнікі атрымлівалі
64 рублі ў год на
е становішча тлу-
што некаторыя ві-
, напрыклад, ткац-
ло найбольш па-
дкім павеце, не да-
аматужніку вяліка-
о на вырабы гэтых
авалі вельмі нізкія
саматужнікаў так-
ад блізкасці рын-
рыентаванасць на
пажыўца давала
еляніну атрымаць
прыбыткі ад свай-
га занятку.

а ЛАБАЧЭЎСКАЯ.

СА СТАРОГА КУФРА

# КАЛІНКАВІЦКІЯ СТРОІ

Калінкавіцкія строі — традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення на Усходнім Палессі. Бытавалі ў XIX—1-й палове XX стагоддзяў пераважна ў Калінкавіцкім, Светлагорскім і Жлобінскім раёнах. Адметныя дасканала распрацаванай і выверанай арнаментыкай натыкання і вышывак, своеасаблівымі з мноствам пышных фальбонак каўнярамі жаночых кашуль, прыгожымі багата аздобленымі гарсэтамі.

Аснову жаночага летняга гарнітура складалі кашуля, спадніца-андарак, фартух, гарсэт, галаўны ўбор. Кашулю шылі з 3 полак даматканага белага палатна, з прамымі плечавымі ўстаўкамі, адкладным (стаяча-адкладным) прышытым ці здымным каўняром з мноствам пышных фальбонак, падобным да каўняра заходнееўрапейскага свецкага касцюма XVI стагоддзя. Аздаблялі кашулю



натыканнем (пераборы), вышыўкай (працягам, пляцёнкай, крыжыкам, сакаленнем) на каўняры, рукавах (шырокая палоса арнаменту ў верхняй частцы рукава ў адных выпадках рэзка абрывалася, у іншых — паступова пераходзіла ў больш лёгкі, празрысты малюнак), плечавых устаўках, падоле, а таксама карункамі, мохрыкамі, нашыўкамі тканін. Спадніцу-андарак кроілі з 4 полак даматканага сукна ў вертыкальныя пункцірныя разнаколерныя паскі на сакавіта-малінавым фоне ("андарак у граты") і ў разнаколерныя паскі на цёмна-чырвоным фоне, якія ўтваралі буйную клетку ("андарак у краты"). Да верху спадніцы, сабранага ў дробныя складкі, прышывалі спецыяльна вытканы пояс. Фартух шылі з 2 полак палатна, злучалі іх дэкаратыўным швом-расшыўкай. Белае поле фартуха натыкалася строгім арнаментам з прамавугольнікаў і квадратаў (дымкі, акенцы) і тонка распрацаваным арнаментам гарызантальных палос. Гарсэт шылі з тонкага даматканага, злёгку прываленага сукна або фабрычных тканін — шарсцянкі, аксаміту, атласу, саціну чорнага (радзей цёмна-фіялетавага, цёмна-вішнёвага ці сіняга) колеру. Кроіўся прыталеным з баскай у форме 4 кліноў або пышнай фальбоны, зашпіляўся спераду на гаплікі. Крыссе яго абапал засцежкі аздаблялі нашыўкай тасьмы розных колераў (тасёмкі ўтваралі 4—6 кветак у 2 рады або кампанаваліся ў строгі малюнак геаметрычнага арнаменту), упрыгожвалі металічнымі і касцянымі гузікамі, машыннай ці ручной строчкай. Традыцыйнымі галаўнымі ўборамі дзяўчат былі вянкі, розныя паводле крою і аздаблення павязкі накшталт маленькіх ручнікоў — скіндачкі. Замужнія жанчыны насілі наміткі (завівала), хусткі, чапцы са скіндачкамі, донца якіх вышывалася густым чырвоным арнаментам.

Аснову мужчынскага адзення складалі кашуля з поясам і нагавіцы. Тунікападобную кашулю шылі з белага кужэльнага палатна, аздаблялі паскамі геаметрычнага арнаменту на каўняры, пазусе, плячах, рукавах і падоле. Адзенне дапаўнялася галаўным уборам (магерка, аблавуха), скураной кайстрачкай-калітой, а таксама скураным чэхлікам для ножыка, грабеньчыка.

**Падрыхтаваў Дзяніс РАМАНЮК.**

КНІГАЗБОР

**"Ёсць любоў у мяне..." — такую назву мае зборнік песень Івана Цітаўца, які выйшаў сёлета ў выдавецтве "Адукацыя і выхаванне".**

Ёсць любоў у мяне...



ІВАН ЦІТАВЕЦ

Іван Цітавец адносіцца да ліку паэтаў, што друкавацца пачалі позна. Першы яго верш пабачыў свет, калі аўтару споўнілася 49 гадоў. Аднак, кажуць, паэзіі, як і каханню, усе ўзросты падуладныя, тым больш, што ў Івана Цітаўца сапраўды паэтычная душа. Па адукацыі ён інжынер-механік, доўгі час працаваў на будоўлях, заводах і амаль 30 гадоў у школе.

Вершы І. Цітавец піша з дзяцінства. Зараз шмат публікуецца ў перыядычным друку, чытачы знаёмыя з дзвюма яго папярэднімі кнігамі — "Дзіўная старана" і "Сполохи".

У зборніку "Ёсць любоў у мяне" прадстаўлены вершы І. Цітаўца, якія сталі песнямі. Музыку да іх пісалі розныя беларускія кампазітары — пачынаючыя і сапраўдныя класікі айчыннага музычнага мастацтва: Анатоль Багатыроў, Леанід Захлеўны, Ігар Лучанок, Уладзімір Солтан... Як адзначыў кампазітар Алег Чыркун, усіх прываблівае дэмакратычнасць вершаў Івана Цітаўца, "іх даступнасць і распеўнасць".

Праца над апошняй кнігай доўжылася 12 гадоў, і ў выніку атрымаўся добра аформлены зборнік, які, акрамя тэкстаў песень і нот, змяшчае таксама фотаздымкі кампазітараў і кароткія звесткі з іх біяграфіі.

Многія з гэтых песень набылі шырокую папулярнасць і гучаць у выкананні вядомых спевакоў і эстрадных калектываў, развучваюцца ў музычных школах.

Зараз Іван Цітавец плануе перавыданне кнігі. У новай рэдакцыі будуць прадстаўлены песні на музыку 100 кампазітараў, "кожны — своеасаблівая кветка нацыі, чым іх болей, тым прыгажэй наш песенны букет".

Мяркуючы па лістах, што прыходзяць у Дзяржкамітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей і рэдакцыю "Голасу Радзімы", у суполках шмат аматараў беларускай песні. Таму тыя, каго зацікавіў зборнік песень І. Цітаўца "Ёсць любоў у мяне", могуць зрабіць заяўку на гэтую кнігу па тэлефоне: (+ 375-17) 241-17-39.

**Нэлі ПРЫВАЛАВА.**



**Мікалай АЛЕШКА** *нарадзіўся ў вёсцы Вясея Слуцкага раёна Мінскай вобласці ў 1967 годзе. Скончыў Грэскую музычную школу, потым музычнае вучылішча імя Глінкі, Акадэмію музыкі.*

*Працуе ў ансамблі народнай музыкі "Бяседа" Белтэлерадыёкампаніі. Напісаў шмат песень і інструментальнай музыкі.*

*Жыве ў Мінску.*

# КВІТНЕЙ, МОЙ САД!

Вечар над зямлёй
Зоркамі блішчыць,
А ў душы маёй
Музыка гучыць.
Спевы салаўя —
Для салодкіх слоў.
Музыка мая —
Пра маю любоў.

*Прыпеў:*

Ты квінтей, мой сад,
Белым вэлюмам.
Шчасце першае —
Вечна зелена.

Без любові той
Мне жыцця няма.

Песняй дарагой
Стала мне яна.
Прыбірае сад
Шчырая вясна.
Вёснаў будзе шмат,
А любоў адна.

*Прыпеў.*

Квецень адпяе,
Завітае зноў.
Сэрца саграе
Верная любоў.
Праз віры гадоў
З ёй пакрочу я:
Светлая любоў —
Музыка мая.

*Прыпеў.*

*Словы І. ЦІТАЎЦА* *Музыка М. АЛЕШКІ*




астора яго
на Пухаў-
і кантакты
на з сусе-
, што ме-
лужыў для
ральніцкай
м увагі да
беларускай
ае, льга
льск , Ігу-
налавекам і
рытэтным.
мерці бацьк-

яцтве. Міхал Агінскі прысвяціў паланез для скрыпкі і фартэпіяна "паважанаму брату Станіславу Ельскаму і яго жонцы Розе, уроджанай Прозар".

Музыкальныя здольнасці бацькі перадаліся сыну Каролю, які атрымаў прафесіянальную падрыхтоўку ў вядомых музыкантаў Кіферлінга і Дзяшчынскага. Ён аўтар некалькіх твораў для скрыпкі і "Паланеза 1837 г." Кароль ператварыў Дудзічы ў "сядзібу муз".

# ...ляксандра ЕЛЬСКАГА ...ІМ КРАЯЗНАЎСТВЕ

спадчыну
е, надаваў
аляпшэнню
бства, ме-
есу, развя-
ў парк, ца-
года быў
угой акругі
У 1882—
скага камі-
учылішчы ў
ода — га-
ятовага Та-
рахоўкі ад
гэтага тую
ультурную
лі сядзібы ў
3 дудзіцкай
жыццё і
іх А. Цеха-
узыкальна
Любіў му-
Станіслаў
аў славута-
на літоўска-
Агінскага,
дні маёнтак
далёкім сва-

І на Замосце з унікальным музеем, і на "сядзібу муз", безумоўна, паглядалі суседзі-памешчыкі. У выніку калекцыі, вартыя ўвагі зборы ствараліся і ў іншых пухавіцкіх маёнтках. У недалёкай ад уладанняў Ельскіх Цітве гаспадары Янішэўскія мелі вялікую бібліятэку мастацкай літаратуры, мемуараў, упарадкаваным быў і іх хатні фамільны архіў. Славіўся велізарнай бібліятэкай Дукорскі палац — некалькі тысяч тамоў на польскай, лацінскай і рускай мовах, рукапісы. Мелі гаспадары Дукоры вялікую калекцыю выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, архіў (Агінскіх, Оштарпаў, Тартынгаў). Была ў часы Оштарпаў у палацы яшчэ адна калекцыя — збор карцін коней, якімі таксама славілася Дукора, мясцовы конезавод. А сядзіба Мажэйкі, паблізу вёскі Русаковічы... У 90-я гады мінулага стагоддзя Мажэйкі, між іншым, вядомыя з 1584 года, літаральна

ажывіў мастак Генрых Вейсенгоф. Прывёў у сістэму сабраныя за мінулыя стагоддзі мастацкія каштоўнасці. А ў тых зборах былі выключнай вартасці мастацкія палотны — аўтапартрэт Яна Дамеля, партрэты сям'і Вейсенгофаў і Быкоўскіх, партрэт Станіслава Панятоўскага, некалькі дзесяткаў мініяцюр XVII—XIX стагоддзяў, мноства эскізаў на мясцовыя тэмы: тыпы жыхароў, жывапісныя пейзажы, сядзібы. Захоўваліся калекцыі літаграфій, абразоў, старадаўніх гадзіннікаў, каменных сякер, ордэнаў і знакаў, у асноўным генерала Я. Вейсенгофа, серабро. Былі ў Мажэйках і зборы па гісторыі мастацтва, культуры, рэдкіх дакументаў, напісаных на пергаменце, таксама унікальны архіў. Такую зямлю, такі край проста нельга не даследаваць!

А сярод даследчыкаў траплялiся розныя людзі, якія па-рознаму асэнсоўвалі мінуўшчыну. Былі тыя, хто час і сілы аддаваў выключна ўслаўленню "ролі партыі і камсамола ў савецкім будаўніцтве". Але былі, ёсць і будуць руплiўцы іншага кшталту, яны лічылі галоўнай палітыкай любоў да Бацькаўшчыны, веданне яе гісторыі. Сапраўднай гісторыі. Сярод іх Анісім Рабцэвіч (1882—1956), які сабраў і аформіў багаты гербарый раслін з Мінскай вобласці і вёсак, размешчаных вакол Шацка, колькасцю 15 папак і вагой 50 кілаграмаў. Акадэмія навук неаднойчы звярталася з просьбай перадаць гэтыя гербарыі, і Анісім Рыгоравіч аддаў сваю працу. Найбольш каштоўныя экземпляры зараз змешчаны ў акадэміі. Побач з гербарыямі — партрэт А. Рабцэвіча. Анісім Рыгоравіч захапляўся не толькі батанікай і заалогіяй, яго, як рознабаковага чалавека, цікавіла ўсё, што датычыцца родных мясцін. Рабцэвічам напісаны такія работы, як "Гісторыя Шацка з IX стагоддзя", "Апісанне Шацкага геаграфічнага раёна: Склад, становішча, велічыня, граніцы, дарогі, агульны агляд паверхні, аб каменнях на палях", "Апісанне вадзяных насякомых ракі Шачы і іншых вадаёмаў Шацкага раёна", "Апісанне беспазваночных жывёл ракі Шачы".

Зараз Пухавіцкі раённы краязнаўчы музей знаходзіцца ў вёсцы Блонь, за 2 кіламетры ад Мар'інай Горкі, у сядзібным доме памешчыкаў-рэвалюцыянераў Бонч-Асмалоўскіх. У разгорнутай музейнай экспазіцыі месца для Дудзіч і сям'і Ельскіх знайшлося ў трох залах.

...Краязнаўчая, асветніцкая дзейнасць Аляксандра Ельскага ва ўсе гады яго жыцця самым непасрэдным чынам была пераплецена з папулярызатарскай работай. Праз кнігі, перыядычны друк даследчык імкнуўся данесці плён сваіх росшукаў да самага шырокага кола чытачоў. Гэтым жа кіруюцца ў сваёй рабоце і сучасныя краязнаўцы Пухаўшчыны. Зварот да спадчыны, вопыту Аляксандра Ельскага, чыё імя даўно ўжо след упісаць залатымі літарамі ў гісторыю Беларусі, сведчыць: менавіта праз масавае развіццё краязнаўства ляжыць адзін з шляхоў да сцвярджэння нацыянальнай самасвядомасці беларусаў.

НАТАТКІ З НАГОДЫ

# ДЗЯРЖАЎНЫ МУЖ Павел АТРУШКЕВІЧ

НАЎЗДЗІЎ цёплымі і празрыстымі ад сонца восеньскімі днямі родную старонку наведаў наш суродзіч з Казахстана Павел Атрушкевіч, які жыве там ужо больш за чатыры дзесяцігоддзі. Шмат гадоў запар Павел Аляксандравіч узначальвае адну з самых прэстыжных вышэйшых навучальных устаноў — Дзяржаўную архітэктурна-будаўнічую акадэмію. У абсягах грамадска-палітычных ён намеснік старшыні Асамблеі народаў Казахстана. Менавіта на яго долю выпаў клопат пра тых, каго традыцыйна адносяць да так званага "русскоязычного" люду. Кажу "так званага", паколькі гэты тэрмін усё больш адыходзіць у нябыт, як рэлікт былой імперскасці. Меркаваць, што ў абсягах нацыянальных у Казахстане ўсё ідэальна і няма ніякіх канфліктаў — больш чым рызыкоўна. На самай жа справе ў Паўла Атрушкевіча шмат клопатаў, якія часам яго абсядаюць роем. Вось і на гэты раз ён не дабыў свой запланаваны побыт у Беларусі і вымушаны быў дачасна адляцець назад у Казахстан у сувязі з вайной, якая зноў разгарэлася ў Расіі з Чэчнёй.

Здавалася б, а пры чым тут Казахстан? Ды пры тым, што паводле "мудрага" рашэння "бацькі ўсіх народаў" Іосіфа Сталіна чэчэнцы былі дэпартаваны са сваёй Бацькаўшчыны ў Казахстан, чым далі клопату тутэйшаму насельніцтву на доўгія гады. Потым, як вядома, чэчэнцам дазволілі вярнуцца на іх спрадвечную радзіму, ды многія ўжо прыжыліся тут і засталіся. Але адчуваюць сябе часткай адзінароднага і адзінакроўнага чэчэнскага народа і таму, маючы гарачы тэмперамент, не застаюцца абыякавымі да таго, што адбываецца цяпер на Каўказе. А гэта — праблемы і для ўлад Казахстана. Такія ж праблемы крыху раней абвастрыліся і з дагестанцамі, якіх таксама нямала ў Казахстане. Тады ў Паўла Аляксандравіча было некалькі гарачых дзён і бяссонных начэй, але ўсё ж удалося суняць празмерныя страсці. Будзем спадзявацца, і ў гэтым выпадку цвярозы і ўдумлівы падыход да жыцця возьме верх над эмоцыямі...



*У час сустрэчы.* Фота Тарэзы ЖУКОЎСКАЙ.

З ПАЎЛАМ Аляксандравічам мы знаёмыя даўно, ад таго часу, калі мной апанавала ідэя стварэння Згуртавання беларусаў свету і ён быў адным з першых, на каго я выйшаў і хто без сумненняў падтрымаў гэты, для некаторых проста нерэальны, намер. Праз яго завязалося ліставанне з беларусамі як у Алма-Аце, так і ў іншых рэгіёнах Казахстана, у тым ліку і з беларускімі вайскоўцамі ў Джэзказгане, якіх згуртаваў і павёў да нацыянальнай ідэі вядомы цяпер на Беларусі грамадскі дзеяч, выдавец газеты "Наша слова" падпалкоўнік у адстаўцы Станіслаў Суднік.

Потым быў Першы сход беларусаў блізкага замежжа і Першы сход беларусаў свету, дзе мы павіталіся з вока на вока і пасябравалі. Але планам нашым не суджана было здзейсніцца. Я вымушаны быў ад старшынёўства пазбавіцца, кантакты ж Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" з беларусамі Казахстана спакваля слабелі, а ўрэшце, пазбаўленыя канкрэтнага ўзаемадзеяння, зусім змізарнелі. Так, як і з многімі іншымі зямляцтвамі. Што датычыць маіх асабістых кантактаў, то яны таксама ў многіх выпадках пазбавіліся ранейшай актыўнасці, бо паміж намі знік агульны грамадскі інтарэс, неабходнасць іх падтрымліваць, скажам так, па абавязку службы. І з Паўлам Аляксандравічам таксама не бачыліся і не перапісваліся некалькі гадоў. Але сустрэліся як свае, родныя, ні ў чым не перайначаныя і не змененыя. Гэтую роднасць душ, а не чыноўніцкага абавязку дае адчуць сяброўскі поціск рукі, першае прамоўленае слова, усмешка вачэй, не ведаю, як маіх, а ў Паўла Аляксандравіча шчырая, прыязная, іскрыстая.

Некалькі дзён мы і правялі разам, у прамежку, безумоўна, паміж ягоным графікам запланаваных сустрэч і візітаў. Бо хоць тут спадар Атрушкевіч быў неафіцыйна, але ж у чалавека такога рангу заўсёды ёсць патрэба і на неафіцыйным узроўні заглянуць у нейкія ўстановы і сустрэцца з людзьмі пры пасадах. Пабыў ён, наколькі мне вядома, у Дзяржаўным камітэце па справах рэлігій і нацыянальнасцей, у Таварыстве дружбы з замежнымі краінамі, у Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Францішка Скарыны, колішні кіраўнік якога Адам Мальдзіс не перапыніў сяброўскіх і дзелавых дачыненняў з многімі аўтарытэтнымі беларусамі замежжа.

Мы, апрача звычайных сустрэч, "афіцыйна" пабывалі на дзвюх імпрэзах: у Нацыянальным купалаўскім тэатры на юбілеі яго галоўнага рэжысёра Валерыя Раеўскага і на сустрэчы з выкладчыцкім і студэнцкім калектывам Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага універсітэта.

Я шчыра ўдзячны адміністрацыі Купалаўскага тэатра, што тут без усякіх бюракратычных высілкаў адгукнуліся на маю просьбу і ў дзень юбілею далі нам аж чатыры запрашальнікі, ды не абы-куды, а ва ўрадавую ложу, хоць мы, як людзі зусім неамбіцыйныя, а дэмакратычныя, не скарысталі магчымасці пасядзець з тутэйшымі абранымі, а занялі вольныя месцы ў партэры.

Уражанне ад вечарыны, якая ішла паводле завядзёнкі, было да пэўнага часу звычайным. Ды потым нашага госця проста ўразіла выступленне чалавека, якога я даўно ведаю і захапляюся яго беларускасцю — не паказной, не мітынговай, а арганічнай, якая выяўляецца паўсюль: дома, у сям`і, на працы, падчас афіцыйных выступленняў з высокай трыбуны. Гэта намеснік Генеральнага дырэктара Мінскага аб`яднання "Крышталь" Веніямін Ліля. Ён усіх зачараваў і ўразіў бездакорнай беларускай мовай, глыбокім па сэнсу і душэўна прачулым словам мо не так пра юбіляра, як пра высакародную ролю тэатральнага мастацтва, заклікана ўзвышаць, рабіць людзей лепшымі і дабрэйшымі.

НАШ ДУХ яшчэ больш акрыяў падчас наведвання Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага універсітэта, на чале якога Іван Жарскі, з кім мы колісь купаліся, лавілі стронгаў і ракаў у адной рэчцы і вучыліся ў адным класе. А потым жыццё развяло нас па сваіх сцяжынах. І справа не толькі ў тым, што я паступіў на філфак Беларускага дзяржаўнага універсітэта, а ён — у тэхналагічны, але найперш у сутнасці нашых характараў, саміх падыходаў да жыцця, разумення, як на цяперашні розум, яго сэнсу і сваёй ролі, свайго чалавечага і грамадзянскага прызначэння. Мой ідэал — птушка ў вольным палёце, якой арганічна неўласцівы і непрымальны ўсякі прымус над сабой, а таму яна лунае ў падуладнай ёй прасторы тады і там, дзе ёй жадаецца... Пры такім падыходзе можна спазнаць шмат жыццёвых радасцяў, чым я, дзякаваць Богу, і не быў абдзелены, але ўзлёты мяжуюць з магчымымі падзеннямі, бо ты нічым і нікім, апрача ўласных волі і розуму, не абаронены, бо ў аснове такой філасофіі — разумны эгаізм: я ёсць я і, як цэнтр мікрасвету, гатоў

ПАДПІСКА-2000

***Паважаныя суайчыннікі ў Расійскай Федэрацыі!***

**Рады паведаміць, што, нягледзячы на ўсе складанасці нашага часу, зараз вы маеце магчымасць выпісваць перыядычныя выданні з Радзімы. У каталог "Газеты і часопісы" ("Газеты и журналы") агенцтва "Роспечать" на І паўгоддзе 2000 года ўключаны**

*ГАЗЕТЫ:*

**"Голас Радзімы"**
**"Беларуская газета"**
**"Детективная газета"**
**"Звязда"**
**"Компьютерная газета"**
**"Музыкальная газета"**
**"Народная газета"**
**"Советская Белоруссия"**
**"Строительство и недвижимость"**
**"Туризм и отдых"**
**"Ярмарка"**

**ЧАСОПІСЫ:**

**"Беларусь"**
**"Вестник Высшего Хозяйственного Суда Республики Беларусь"**
**"Всемирная литература"**
**"Гаспадыня"**
**"Дело (Восток + Запад)"**
**"Дифференциальные уравнения"**
**"Журнал прикладной спектроскопии"**
**"Инженерно-физический журнал"**
**"Материалы, технологии, инструменты"**
**"Неман"**
**"Трение и износ"**
**"Юстиция Беларуси"**
**"DJAZZ=квадрат" (Джаз=квадрат)**
**"B&B (BELARUS AND BUSINESS) и предпринимательство" на ангийском языке.**

МІНСК, ЗАХАРАВА 28. ДОМ ДРУЖБЫ




22 лістапада ў Мінску ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі адбылося адкрыццё Вейцманаўскіх дзён (Хаім Вейцман — першы прэзідэнт Ізраіля). У ім прынялі удзел кіраўнік дэлегацыі Генеральны дырэктар Адміністрацыі Прэзідэнта Дзяржавы Ізраіль Ар'е Шумер, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Дзяржавы Ізраіль у Беларусі Марцін Пелед-Флэкс, старшыня Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей нашай краіны Аляксандр Білык, старшыня прэзідыума Беларускага таварыства дружбы Арсен Ваніцкі.

**БелТА.**

ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

# СЛОВА Ў ПАМЯТНУЮ КНІГУ БЕЛАРУСАЎ АЎСТРАЛІІ

Так сталася, што на будову футбольнага стадыёна да Алімпійскіх гульняў, якія адбудуцца ў 2000 годзе ў Аўстраліі, была выбраная плошча паблізу царкоўнага будынка Парахвіі Св. Ап. Пятра і Паўла ў Гайндмарш каля Адэлаіды, што ў Паўднёвай Аўстраліі.

Разлікі паказалі: выкарыстанне на рэлігійныя патрэбы пастаўленых у 1963 годзе на складкі і праз ахвярную працу вернікаў пад кіраўніцтвам Міхаіла Шчурка будынкаў пасля пабудовы стадыёна стане немагчымым.

З увагі на гэта кіраўнік парахвіі айцец Міхаіл Бурнос і Парахвіяльная Рада звярнуліся з просьбай да аўстралійскіх уладаў паправіць выніклую з праекту шкоду парахвіі.

Дзякуючы іхняй настойлівасці і пасрэдніцкай дапамозе спадара Пітэра Гупэра, улады паставіліся да просьбы прыхільна ды, не зважаючы на вялікі кошт, згадзіліся пабудаваць новы царкоўны будынак і парахвіяльную залу ў іншым мейсцы.

Гэтае мейсца было знойдзенае ў Кілкэны, што 4,5 кілametра па дарозе ад папярэдняга, і было дастатковае не толькі на царкву ды залу, але і на пабудову дома для святара.

Неўзабаве пасля гэтага пачалася будова новае царквы, заканчэнне якое прадбачылася на пачатак верасня і асвячэнне будынка было вызначана на 18 і 19 дня таго ж месяца.

На жаль, здароўе протаіерэя Міхаіла Бурноса не дазволіла яму дабыць на чале пачатае справы, і ён быў вымушаны пайсці на адпачынак, а ягонае мейсца згадзіўся заняць святар з вялікім пастырскім дазнаннем Пётр Касацкі. Пад ягоным кіраўніцтвам і дзякуючы ахвярнай працы Парахвіяльнае Рады ды некаторых іншых парахвіянаў, за кароткі час усё было належным чынам прыгатаванае да ўрачыстасці.

А 3-й гадзіне ў суботу, 18 верасня, айцы протапрасвіцеры Пётр Касацкі і Аляксандар Кулакоўскі з грамадою каля 120 вернікаў, што сабраліся ў новым царкоўным будынку, паселі на аўтобусы ды паехалі ў старую царкву, каб забраць адтуль усе святасці.

З гэтымі святасцямі ў новую царкву на чале з Пятром Касацкім ды хорам пешкі ішло каля 60 вернікаў, з якіх Валеры Шадзькоў нёс крыж, Міхась Шчурко, Юры Шчурко, Антон Яновіч і Хведар Шчурко — харугвы, Мікалай і Міхась Кандрусікі ды Марыля Яновіч, Ірына Якша, Вера Біканін, Альжбета Губчанка, Галіна Кандрусік, Лара Сайдэгам і Соня Рубаха — іконы.

Пасля кароткага адпачынку з дарогі айцы Касацкі і Кулакоўскі пачалі адправу вячэрні і ранічні.

Прыслугоўвалі айцам Мікалай Кандрусік і Рыгор Яновіч.

Хорам, што складаўся з матухны Ноны Касацкай, Галіны Кандрусік, Лары Сайдэгам, Ліды Шамшурынай і Соні Рубаха ды Васіля Яновіча, Валеры Шадзькова, Аўгена Мілаграда і Уладзіміра Калесніковіча, кіраваў вядомы рэгент Аўген Падгайскі, што знарок прыехаў на ўрачыстасць ажно з Сіднея.

У нядзелю, 19 верасня ў 9.30 раніцы, айцы Касацкі і Кулакоўскі выканалі асвячэнне новае царквы, пасля пачалася Св. Літургія, на якой прысутнічала каля 200 чалавек, у тым ліку і прадстаўнікі ўладаў, што паспрыялі пераносу царквы на новае мейсца, і 20 гасцей з парахвіі БАПЦ у Мельбурне.

Падчас Св. Літургіі было прачытанае на дзвюх мовах прынагоднае прывітанне ад Я. М. Мітрапаліта Ізяслава. У канцы Васілю Яновічу — старшыні Парахвіяльнае Рады і Соні Рубаха ды Валерыю Шадзько, Мікалаю Кандрусіку й Уладзіміру Фролаву — сябрам Рады, былі ўручаны ўладыкавыя падзячныя граматы за ахвярную дзейнасць на Божай ніве.

Пасля ў новапабудаванай каля царквы парахвіяльнай залі, дзякуючы кіраўніцтву і працы Марылі Яновіч, Ірыны Якша і іншых, быў зладжаны пачастунак з традыцыйнымі беларускімі стравамі, які смакавала 150 гасцей.

Падчас яго былі прачытаныя атрыманыя прывітанні, у тым ліку падпісаныя архімандрытам Аляксеем Драздоўскім і доктарам Расціславам Гарошкам ад Парахвіі Катэдральнага Сабора Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне ды спадаром Віталем Зайкам ад Нью-Йоркскага Аддзела Беларуска-Амерыканскага Задзіночання.

Пасля ўрачыстасці ўсім удзельнікам было прапанавана запісаць іхнія ўражанні ці пажаданні ў памятнай кнізе.

Мы, хоць не прысутнічалі там, але заўсёды духова злучаныя з нашымі суродзічамі ў Кілкэны, як бы ўпісваючы ў памятную кнігу, хочам пажадаць ім плоднае дзейнасці ў будучыні.

**Барыс ДАНІЛЮК.**

ЗША.



прыняць і наблізіць да сябе ўсіх, у кім адчуваю роднасную душу, але нічым ні перад кім не абавязаны і не патрабую нічыёй над сабою апекі. А таму ў моманты няўдач і крушэнняў даводзіцца разлічваць толькі на ўласныя сілы. Само сабой, такая жыццёвая пазіцыя цалкам выключае магчымасць церабіцца ўгару па кар'ернай лесвіцы. Разам з гэтым не толькі дапускаю, але лічу проста неабходным для забеспячэння жыццядзейнасці грамадства і засцярогі яго ад хаосу і поўнай дэградацыі, існаванне тыпу проціплеглага, у аснове якога рацыяналізм грамадскі і дзяржаўны. Да людзей такога арыенціру і адношу свайго колішняга аднакласніка, а цяпер рэктара Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага універсітэта Івана Жарскага.

Пра тое, што высокі госць з Казахстана згодны на сустрэчу, я паведаміў кіраўніцтву універсітэта, а таксама загадчыцы кафедры беларускай мовы гэтай ВНУ Вользе Кузьміч, якая з лёгкай душой узялася за арганізацыю незапланаванага мерапрыемства. Адбывалася яно ў вялікай зале, народу было пад тысячу чалавек.

Мы з Паўлам Аляксандравічам папярэдне абмяркоўвалі, на якой мове ён будзе выступаць. "Разумееш, — казаў ён, — я б хацеў па-беларуску, ды баюся, што будуць праскокваць русізмы. Практыкі ж няма".

Але паміж ім і залай адразу ўзнікла тое нябачнае духоўнае паяднанне, якое натхняе прамаўляць нязмушана і лёгка, як дыхаць. І — о, дзіва! Праходзіць хвіліна, пяць, дзесяць... а з выступоўцы, нібы празрыстая вадзіца ў рачулцы, усё плыве і плыве незабруджаная і незамутнёная беларуская мова...

ПЫТАННЯЎ да Паўла Аляксандравіча было багата, мо з паўсотні, пісьмовых і вусных, шмат якія з іх датычылі моўных праблем. Як ён, напрыклад, глядзіць на статус мовы карэннай нацыі ў дзяржаве, якім чынам асабіста яму ўдалося на чужыне захаваць родную мову і дзеля чаго гэта яму патрэбна, ці размаўляюць па-беларуску ягоныя дзеці і г. д.

Адказы, як і па іншых праблемах, былі дакладныя і канкрэтныя. Спадар Атрушкевіч не абыходзіў вострых пытанняў.

У Казахстане нацыянальнае пытанне значна вастрэйшае, чым у нас, што абумоўлена шматэтнічным складам дзяржавы, у якой карэннае насельніцтва — казахі — складае толькі палову ад агульнай колькасці. А яшчэ ж непадалёку знаходзіцца ісламісцкі Афганістан, адкуль ваяўнічы фундаменталізм усё настырней імкнецца на сумежныя сярэднеазіяцкія тэрыторыі...

Афіцыйны курс Казахстана — будаўніцтва і ўмацаванне дэмакратычнай, не рэлігійнай, а свецкай незалежнай дзяржавы, адраджэнне і актыўнае развіццё казахскай культуры і мовы пры забеспячэнні правоў на самаіснае развіццё іншых народаў, іх моў і культур. Дзяржаўнай мовай з'яўляецца, паводле Канстытуцыі, казахская.

Сваю ролю як намесніка старшыні Асамблеі народаў Казахстана Павел Аляксандравіч бачыць у правядзенні разумнай і ўзважанай нацыянальнай палітыкі, згладжванні супярэчнасцей як безаглядна нацыяналістычнага, так і манкурцкага, па сутнасці, антыказахскага бакоў. Ён улічвае складанасць праблем пераходнага перыяду, але перакананы, што ў Казахстане дзяржаўнай мовай павінна быць толькі казахская. Тут, паводле яго меркавання, акцэнт трэба рабіць на новае маладое пакаленне, якое фармуе свой грамадзянскі менталітэт у дзіцячых садах і школах, выпускнікі якіх і ўтвараюць рэальную базу для натуральнага пераходу вышэйшых навучальных устаноў Казахстана на нацыянальную для гэтай краіны мову. А такіх з кожным годам становіцца ўсё больш і больш.

Сказанае не значыць, што тут павінны ўсе нацыянальнасці пазбавіцца сваёй прыроднай сутнасці і перафарбавацца ў казахаў. Наадварот, цяпер якраз і назіраецца паварот да сваіх спрадвечных вытокаў, у тым ліку, хоць і запаволена, у параўнанні з іншымі, сярод адной з самых шматлікіх па колькасці беларускай дыяспары. Значным і рэальным крокам наперад будзе адкрыццё першай на зямлі Казахстана беларускамоўнай школы.

Зразумела, што студэнцкая і выкладчыцкая аўдыторыя актыўна цікавілася і тым, як жывуць, працуюць і вучацца іх калегі ў іншай краіне. І яны атрымалі жывы вычарпальны адказ на свае пытанні. Агульная ацэнка спраў у сістэме адукацыі, бадай, на нашу карысць, бо ў Казахстане не ўдаецца запаволіць працэс па яе згортванню, асабліва ў абсягах бясплатнага навучання. А на мікраклімат навучання відавочны ўплыў агульнаграмадскіх сітуацый, у гэтых на сённяшні час ужо вельмі адрозных па свайму палітычнаму і гаспадарчаму укладу краінах. У параўнанні з беларускімі, навучальныя ўстановы Казахстана і іх кіраўніцтва валодаюць большай адміністрацыйнай свабодай і незалежнасцю ад галіновых і цэнтральных улад, што адгукаецца на атмасферы навучальнага працэсу. Ва ўзначаленай спадаром Атрушкевічам акадэміі, напрыклад, вольнае наведванне, студэнты могуць у любы час заходзіць і выходзіць з аўдыторыі і нават пасядзець і папіць у час заняткаў піва ў бары, які тут жа, у сценах ВНУ. Падобныя "адкрыцці" наша моладзь вітала гучнымі і дружнымі воплескамі.

СПАКОН веку існуе: што край, то і звычай, што чалавек, то і нораў! Да гэтага традыцыйнага дабаўлю і сучаснае: Асоба — гэта цэлы свет. На пасадзе рэктара акадэміі, як выявілася, Павел Аляксандравіч дабывае апошнія месяцы і пераходзіць на сталую працу ў вышэйшы заканадаўчы орган Казахстана. Пажадаем яму поспехаў і ўдачы!

**Яўген ЛЕЦКА.**

НАСТРОЙ



Фота Аляксандра ДЗІДЗЕВІЧА, БелТА.

АНШЛАГ



XII Міжнародны фестываль сучаснай харэаграфіі адкрыўся ў Віцебску. Удзел у ім прымаюць звыш 40 танцавальных калектываў з Беларусі, Літвы, Расіі, Эстоніі, Галандыі, Кітая, Ізраіля, Польшчы і Нідэрландаў. Міжнароднае журы ўзначаліў народны артыст СССР і Беларусі, прафесар Акадэміі музыкі Беларусі, харэограф і дырэктар Нацыянальнага акадэмічнага вялікага тэатра балета Рэспублікі Беларусь Валянцін Елізар'еў.

НА ЗДЫМКАХ: старшыня журы Валянцін ЕЛІЗАР'ЕЎ; сцэна з балета "Залаты пеўнік" у выкананні рускага камернага балета "Масква".



Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.

ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

# УРАЖАННІ ФРАНЦУЗСКАЙ ГОСЦІ

**Жыла-была ў французскім горадзе Ліёне дзяўчынка Карына Бардзье. І здарылася так, што разам з бацькамі трапіла яна на прыём, наладжаны мэрыяй горада з нагоды прыезду дэлегацыі з Мінска, які ўжо многа год быў пабрацімам Ліёна. І так захацелася Карыне даведацца, што гэта за краіна такая — Беларусь, чым жывуць яе людзі. І стала яна пісаць пісьмы ў невядомае далёкае. Аднойчы адправіла адно з гэтых пісем у Мінск — у Таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі. Адтуль трапіла яно ў рукі выкладчыка Мінскага педінстытута замежных моў Надзеі Еўчык. Так завязалася ажыўленая перапіска.**

**Карына Бардзье вырасла, скончыла Ліёнскі інстытут палітычных навук, стала працаваць у Цэнтры еўрапейскіх даследаванняў у Парыжы — навуковым супрацоўнікам у аддзеле "Усходнія краіны". І яе захапленне Беларуссю з хобі ператварылася ў справу, што стала сэнсам жыцця. Яна вывучае беларускую мову, гісторыю, культуру нашай краіны, займаецца даследаваннем гістарычнай узаемасувязі Францыі і Беларусі.**

**Пяць год назад Карына ўпершыню прыехала ў Мінск. З таго часу кожны год наведвае Беларусь, удзельнічае ў Днях французскай мовы, якія па традыцыі штогод праводзіць Мінскі дзяржаўны лінгвістычны універсітэт. Наша сустрэча з Карынай Бардзье адбылася ў час аднаго з такіх візітаў.**

— Мяне зачаравала тое, што ў маленькай Беларусі так многа людзей, якія добра размаўляюць па-французску, — сказала Карына Бардзье. — Больш таго, займаюцца глыбокімі навуковымі даследаваннямі структуры французскай мовы. Многія з беларусаў любяць і ведаюць гісторыю Францыі. На жаль, аб маіх суайчынніках гэтага не скажаш. Большасць з іх нават не падазраюць, якая прыгожая Беларусь. Памятаю, калі я ўпершыню вырашыла заказаць білет у Мінск, то мне давялося доўга тлумачыць касірцы, дзе знаходзіцца гэты горад. Нават супрацоўнікам нашага Цэнтра еўрапейскіх даследаванняў не заўсёды хапае ведаў аб Беларусі, яе геаграфічнай гісторыі, самабытнай культуры.

Наведваючы Беларусь, я кожны раз адкрываю яе для сябе нанава. Мне давялося пабываць у Віцебску, старажытным Полацку, іншых гарадах. Кожны з іх пасвойму прыгожы. Мне падабаюцца ваш народ, вашы звычаі. Люблю, калі за сталом гучаць вершы Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, старадаўнія беларускія песні. Мелодыя, што пражыла стагоддзі, многа можа сказаць пра народ, які склаў яе, таму што ідзе ад сэрца.

— ***Карына, чым выклікана ваша асаблівая цікавасць да гісторыі нашай дзяржавы, дакладней, да дзвюх узаемазвязаных гісторый Францыі і Беларусі?***

— Без мінулага не зразумець і не ацаніць па вартасці сучаснасці. Мы людзі адной планеты, адно цэлае: зялёная крона і карані, што глыбока ідуць у зямлю. І ў далёкім мінулым нашы людзі — мужчыны і жанчыны — часта аб'ядноўваліся. Напрыклад, Тадэвуш Касцюшка, кіраўнік паўстання 1794 года, сфарміраваў свае свабодалюбівыя рэспубліканскія ідэі ў час знаходжання ў Францыі, у Парыжы. А жонка вядомага беларускага паэта Янкі Купалы — Уладзіслава? Яна ж была французскага паходжання, паколькі яе маці — з роду мастака Манэ. А якія важныя падзеі нашай сумеснай гісторыі адбыліся ў гады напалеонаўскіх войнаў! Менавіта праз тэрыторыю Беларусі ў сілу яе геаграфічнага становішча прайшоў шлях арміі Напалеона ў яго паходзе на Расію.

У Францыі да сённяшніх дзён можна пачуць выраз: "Сэ ля Бярэзіна". І ён гучыць, як гіпербала, калі хочуць сказаць аб якіх-небудзь фатальных, катастрафічных падзеях сучаснасці. Менавіта на Бярэзіне ў лістападзе 1812 года была разбіта французская армія, якая адступала.

Беларусы часта аказвалі палонным дапамогу. Некаторым французскім салдатам і афіцэрам так спадабаўся гэты край лясоў і азёраў, што яны засталіся тут жыць. Так, недалёка ад Мінска ёсць вёска Курган. Большасць яе жыхароў носяць такія прозвішчы, як Зварно, Менье, Безансон. Наведаўшы неяк Мінск на Калядныя святы, я з вялікім задавальненнем пазнаёмілася з прафесарам педагагічнага універсітэта, выдатным спецыялістам у галіне беларускай мовы. Якое ж было маё здзіўленне, калі я пачула, што Ніна Васільеўна носіць яўна французскае прозвішча — Гаўрош.

Наступная старонка — удзел беларусаў ва ўзброеным паўстанні Парыжскай камуны ў 1871 годзе. Сярод паўстанцаў, якія згрупаваліся вакол лідэраў сацыялістаў і бланкістаў, было шмат ссыльных Расійскай імперыі, палітычных бежанцаў. Самы вядомы з іх — любімы генерал парыжскіх камунараў Ярослаў Дамброўскі, асоба яркая і незабыўная.

— ***Але хіба на гэтым канчаецца пералік гістарычных падзей, што звязваюць нашы народы?***

— Вядома, не канчаецца. У час першай сусветнай вайны ў шэрагах французскай арміі змагаліся беларускія салдаты. Сярод іх былі Міхаіл Смоляр, Міхаіл Карал, Пётр Занька.

Для мяне самой з'явілася нечаканым адкрыццё імён беларусаў сярод герояў французскага руху Супраціўлення ў гады другой сусветнай вайны. На жаль, аб яго ўдзельніках мала што вядома ў Францыі. Яны змагаліся ў радах французскіх партызан "макі" поплеч з іспанцамі, італьянцамі, англічанамі. Многія загінулі. Іншыя вярнуліся на радзіму, каб працягваць барацьбу супраць "новага гітлераўскага парадку". Сярод іх жанчыны: Марыя Андрыеўская, Ларыса Самшыцкая, Надзея Лісавета, Людміла Кашычкіна...

— ***А што вы можаце сказаць пра дні сённяшнія?***

— Гэта развіццё партнёрскіх сувязей паміж Ліёнам і Мінскам, Клермон-Феранам і Гомелем, Воз-Аўленам і Гроднам. І, вядома, нашы рознабаковыя сувязі — гандлёва-эканамічныя, навуковыя, культурныя.

— ***Карына, ваш тэрмін спаткання з Беларуссю нядоўгі. З якімі думкамі вы пакідаеце нашу краіну?***

— Я не гавару Беларусі: "Бывай!" Я гавару: "Да пабачэння!"

**Таццяна ХРАПІНА.**

**НОВЫЯ ІМЁНЫ**

# ВАЛЕРУШКА



Менавіта так называюць мінскую дзевяцікласніцу Валерыю Куставу яе бацькі і сябры. "Ёсць у гэтым гучанні нешта пышнае, кусцістае, як, дарэчы, і яе прозвішча — Кустава..." — напісаў у прадмове да першай кнігі Валерыі "Кроў Сусвету", якая выйшла тры гады назад у выдавецтве "Мастацкая літаратура", паэт Васіль Жуковіч. Дзяўчына і на самай справе вельмі пяшчотная, паэтычная натура. Яна загаварыла вершамі гэтак жа кусціста і нечакана ўжо з самага маленства, яшчэ не ведаючы азбукі, здзіўляючы бацькоў і знаёмых недзіцячай глыбінёй выказванняў.

...У маленстве Валерушка доўга і цяжка хварэла. Дактары змагаліся за жыццё дзяўчынкі, і калі яна нарэшце ачуняла, малая раптам загаварыла вершамі. Белымі. Не па-дзіцячы мудрымі.

"Я зразумела, што гэта не вершы, а нешта большае, і пачала за ёю запісваць", — згадвае маці юнай паэткі. Аднойчы, сабраўшы напісанае, яна паказала творы дачкі аднаму вядомаму крытыку. Той прачытаў вершы і з задавальненнем адзначыў: "О, гэта цудоўная паэзія!" І жартаўліва дадаў: "З такім паэтам не грэх і чарку выпіць..." Яму і ў галаву не магло прыйсці, што аўтар гэтых паэтычных радкоў не нейкі там сталы і мудры дзядзька, а ўсяго толькі шасцігадовае дзяўчо...




Вядомы беларускі паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Алесь Разанаў, пазнаёміўшыся з паэзіяй маленькай Валерыі, напісаў: "Яе вершы якраз прасвечаны тым патаемным святлом, якое разумееш не розумам, а хутчэй глыбокай падсвядомай памяццю пра іншае жыццё, пра іншы свет, пра іншыя ўласцівасці матэрыі, пра тое, што людзі — свабодныя, крылатыя істоты і ўсё можа быць не так, як мы прывыклі бачыць і разумець..." Паэт назваў паэзію Валерыі Куставай "звышузроставай"...

Валерушка, здавалася б, зусім звычайная дзяўчынка. Жыве ў звычайнай кватэры, вучыцца ў звычайнай школе. Хіба што вельмі пяшчотная, здольная любіць усё навокал, што існуе "ў Божым воку". Яна не падзяляе прыроду на "жывую і нежывую". Валерушка шкадуе і пчолку, якая трапіла пад дождж, і рэчку, у якую нехта кінуў камень: "ёй таксама баліць"...

"Так хочацца ў мінулае і ў будучае. У мінулым мне было так весела і радасна. У будучыні мне купяць сабаку..." Гэтыя словы дзяўчынкі, напісаныя некалькі гадоў таму, прыгадаліся мне, калі прыйшла ў госці да Валерушкі. Ва ўтульнай кватэры Куставых мы пілі духмяную гарбату з духмянымі зёлкамі, нетаропка гаманілі з бацькамі дзяўчынкі, а поруч з намі, запытальна гледзячы на дзверы, ляжаў прыгожы чорны сабачка — чакаў сваю юную гаспадыню. Відаць, той самы, з'яўленне якога прадчувала дзяўчынка. А неўзабаве прыйшла і Валерушка — самотная, задумлівая. Паказала свае любімыя кнігі, малюнкі — дзяўчынка прыгожа малюе. А яшчэ іграе на скрыпцы. Усё гэта дапамагае ёй жыць у дзіўным свеце Паэзіі і Святла. Валерыя Кустава за свае 15 гадоў ужо паспела падараваць свету і чысціню дзявочых дум, і мудрасць, непадуладную ўзросту.

Сваёй паэзіяй Валерушка ўздымае чытача над шэрай будзённасцю, запрашае паразважаць філасофскімі катэгорыямі аб Вечнасці і зноў адчуць сябе свабоднай, крылатай істотай.

**Святлана ХОРСУН.**

## Валерыя КУСТАВА

* * *

Так хочацца
у мінулае і ў будучае.
У мінулым мне было
так весела і радасна.
У будучым
мне купяць сабаку.

* * *

Неба.
На ім блакітныя
І белыя аблокі.
Ёсць і чорныя,
Як хмары
Чарнобыля.

*15 лістапада 1994 г.*

### ХАЧУ Я НА ВОЛЮ

Сяджу ў турме я.
Не бачу ні поля,
Ні жытняга хлеба,
Ні кроплі вады.
Не бачу ні лесу,
Ні сонца прадвесня,
Ні белай Радзімы,
Ні роднай зямлі.
Хачу я на волю,
Катацца на конях,
Хачу я ў пушчу,
На родну зямлю,
Хачу гаварыць я
На роднай мне мове
І пець пра Радзіму,
Пра маці сваю.

*2 лютага 1995 г.*

### ТАМ, Ў ВЫШЫНІ

Там, у вышыні,
нябёс блакітных мары.
Там, у вышыні,
душа вялікага Купалы.
Там, у вышыні,
усё ад шчасця свеціць.
Там, у вышыні,
бягуць па сцежцы дзеці.
Там, у вышыні,
няма грахоў і здрады.
Там, у вышыні...

### МРОЯ

Зорачка ты мая,
Добрыя мары ты шлеш мне.
Я сяджу ля кастра, ля дымка,
Цёплы вецер развівае валасы маёй любай...
І зыходзяцца нашы вусны...

Адкрываю я вочы:
Ні кастра, ні дымка, ні любай...
Зорачка,
Навошта
Добрыя мары ты шлеш мне?
Калі гэтага ніколі не будзе.

*20 ліпеня 1994 г.*

* * *

*Веснавыя песні добрыя,*
*Людзі, якія пяюць іх, — вясёлыя.*

Жыта, жыта, жытачка...
Нарадзілася на свет божы дзяўчыначка.
Будзе яна сіраціначка...
Маці яе добрая памерла,
памерла.
Бацька яе нялюбы мачыху прывёў,
мачыху.
Мачыха — не мамачка,
не мамачка.
Мачыха — цётка злая,
злая.
Пабегла сіраціначка да мамкі
на магілачку...
— Устань, устань, мамачка,
мамачка.
Пойдзем мы дадому,
дадому.

*11 красавіка 1994 г.*

### КРОЎ СУСВЕТУ

Бачу белае поле —
усё ў чорнай крыві.
Бачу белае поле —
у чырвонай крыві.
Бачу белае поле —
і няма там крыві.
На першым полі
памёр Сатана —
Хай не ўстане ніколі,
Каменем у сэрца сваё
забярэ ўсе грахі.
На другім полі
памёр Беларус —
Можа, ўстане калісьці,
Бо мова адна, без яго,
Жыць не зможа.
На трэцім полі
памёр Гасподзь.
І ўваскрос ён.
І прыйдзе да нас.

*13 лютага 1995 г.*

### САД СУСВЕТУ — САЛОДКАЯ І ВЕЛЬМІ ГОРКАЯ СПАКУСА

*Хвіліну жыцця свайго бясцэннага*
*аддаў бы таму, хто б сказаў мне,*
*як спыніць грэх.*

Для чаго мы жывем?
Гэта пытанне
жыцця і смерці.
Наўрад я адкажу на яго,
Калі прайду шмат
раяў і пеклаў
І не раз убачу Бога
і д'ябла.
Можа, мы жывем дзеля таго,
Каб з кожнага жыцця браць
грэх
І адпраўляць яго
ў нябыт?
І, нарэшце,
калі мы вычарпаем
Усе грахі,
Мы паляцім...
Гэта і будзе
сапраўднае жыццё.

*17 лютага 1995 г.*

### ЛІНІЯ ЖЫЦЦЯ

О, суклон —
Гэта лінія жыцця,
Бачу
Чырвоную лінію —
гэта лінія кахання.
Бачу
Жоўтую лінію —
гэта лінія радасці і смутку.
Бачу
Блакітную лінію —
гэта лінія лёсу,
А чорная лінія —
гэта мой грэх.

*9 лютага 1994 г.*

* * *

Белае поле,
а над ім — белы голуб...
Ідзе па полі белы чалавек,
а за ім слядоў няма.
Я клічу яго:
— Паслухай, чалавеча,
што ж ты такое зрабіў,
што за табой слядоў няма?
А ён ідзе, ідзе,
А ў канцы азіраецца,
ідзе да мяне
і кажа:
— Чаго табе, сапраўдны чалавеча?
Я кажу:
— Дык чаго ж за табой слядоў няма?
У яго на вачах
з'явіліся буйныя слёзы.
І адказаў мне ён:
— Вунь бачыш, нада мной
белы голуб ляціць
і ні на крок не адстае, —
гэта ўспамін
майго кахання.

*1993 г.*

* * *

Малюнкі,
старыя афішы
сыходзяць у нябыт
назаўсёды.
А нашы мары,
нашы думкі
застаюцца тут
на ўсе стагоддзі.

*26 снежня 1993 г.*

* * *

Жыццё наша
акіянам бушуе.
Разбіваюцца
хвалі аб бераг —
гэта б'юцца
сэрцы нашы.
Дрэвы каля берага
шумяць —
гэта каханне
наша.
Скалы за дрэвамі
стаяць.
Нерухомыя.
Мёртвыя.
І многа іх.
Гэта —
грахі нашы.

*24 лютага 1994 г.*

* * *

Мы ўсе —
адзіная
Божая сям'я.
І ўсё ж я не разумею:
чаму
адзін забівае,
другі смяецца,
трэці кахае,
чацвёрты злуецца,
а пяты
ляжыць мёртвым...
Чаму гэта так?
Калі мы ўсе —
адзіная
Божая сям'я?

*2 лістапада 1994 г.*

### РАСКОЛІНА

Гэтая бясконцая расколіна
Паміж сапраўдным і неіснуючым
Зацягвае
У нябыт
Твае Я,
Тваю душу,
Тваё цяперашняе жыццё
І твае мары.
І тое незбывальнае,
Што ёсць у табе.

*28 верасня 1996 г.*

### СПАЧУВАННЕ

Што спачуваць сіраціне, —
Можа, у яе лёс даўжэй.
Што спачуваць той краіне,
Поўнай бязмоўных людзей.

Што спачуваць той жабрачцы,
Што на цвінтары стаіць, —
Ёй бы хоць нейкай падачкі,
Бо ўжо грахоў не змаліць.

Што спачуваць той магіле,
Што ў бяздушшы гарыць,
Паспачувай лепей смерці,
Што за табою ляціць.

*30 верасня 1996 г.*

* * *

Беларусь мая
ў заснежанай прыгажосці.
Палі твае белыя
чыстым крышталем блішчаць.
Ды не чуваць вясёлай песні
жаўрука,
толькі цвіньканне сініц...
Яны малыя,
ім холадна тут, —
але ўсё ж нікуды не адлятаюць:
вельмі адданыя сваёй радзіме
гэтыя малыя птушачкі...

*23 лютага 1994 г.*

### ДАНЧЫКУ

З тваіх вуснаў чуем дзіва —
ты аб праўдзе нам песняй гаворыш.

*25 сакавіка 1993 г.*

«Голас Радзімы»

Галоўны рэдактар
Наталля САЛУК

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік рэдактара Галіна УЛІЦЁНАК.
Адказны сакратар Таццяна КУВАРЫНА.
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі Яўген ЛЕЦКА.
Рэдактар аддзела Алена СПАСЮК.
Аглядальнікі Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ.
Спецыяльныя карэспандэнты Нэлі ПРЫВАЛАВА, Віктар СТАВЕР.
Рэдактар-перакладчык Святлана КАРПУЧОК.
Стыльрэдактар Ірына КАЗЛОВА.
Тэхнічны рэдактар Данута РАКАВЕЦ.

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97, 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 625 экз.
Зак. 2297.
Падпісана да друку 29.11.1999 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).